Год II. — № 26. Пятніца, 1-га ліпня (юля) 1921 г. Цана нумару 10 марак.

# НАША ДУМКА

ПАЛІТЫЧНАЯ, ЭКАНАМІЧНАЯ і ЛІТЭРАТУРНАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

У газэце супрацоўнічаюць: НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА, Г. Б., ГЕННАДЗІЙ БАГДАНОВІЧ, ВІЛЯНЧУК, АДАМ ВІТ, ЗВОНЧЫК, КАСТУСЁНАК, АЛЕСЬ КАБЫЧКІН, КРАЎЦОЎ МАКАР, М. К-Ч., ІВАН МЯЛЕШКА, АНТОН НАВІНА, АДАМ САЛАДУХ, КАЗІМІР СВАЯК, СТАНІСЛАЎ ЧЫЖЭЎСКІ і інш.

**Адрэс рэдакцыі і канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.**
Цэны абвестак: за радок пэтыту: перад тэкстам—40 мар., сярод тэкста—60 м., на апошняй страніцы—15 марак. Увага: страніца мае 6 шпальтаў.
Падпіска: на 3 месяцы 150 польскіх марак або 10 хунтаў мукі, заграніцу 250 п. марак.
Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтара і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

За апошнія часы павялічыліся скаргі нашых падпісчыкаў на тое, што „НАША ДУМКА“ не даходзіць да іх па іх адрэсох.

Рэдакцыя даводзіць да ведама ўсіх чытачоў і падпісчыкаў нашай газэты, што „НАША ДУМКА“ на адрэсы ўсіх падпісчыкаў **бязумоўна пасылаецца акуратна.**

З свайго боку Рэдакцыя просіць шаноўных падпісчыкаў паведамляць яе аб кожным выпадку, калі газэта да іх, з тых ці іншых прычын, **не даходзіць.**

**Рэдакцыя.**

## Даволі падзелаў.

Рыжскі мір Польшчы з бальшавіцкаю Расеяй (а іншай цяпер няма) падзяліў Беларускую Зямлю на дзьве няроўныя часьці: *ўсходнюю*, дзе утворана з меншае паловы аднае Менскае губэрні Савецкая Рэспубліка Беларусь, і *заходнюю*, ахрышчаную палякамі ў „kresy wschodnie“ плюс „Litwa Środkowa“.

Як ніяк, а заплюшчаць вочы на гэты факт ня можна.

Зусім ясна, што Беларусь надоўга, ці ненадоўга, а падзелена паміж тымі двама дзяржаўнымі арганізмамі, што на яе, галоўным чынам, тэрыторыі нядаўна яшчэ біліся за чужыя для яе ідэалы.

Для Беларусі ўсё роўна—ці таптала яе босая нага абадранага расейскага чырвонаармейца, ці гоцаў па ёй заграпічны бот польскага легіянэра.

На зруйнованых вайною нівах Беларусі чырвоная армія не разрашыла ўсясьветнай соцыяльнай проблемы, а польская армія не зававала, гэтак мілых ёй граніцаў 1772 году.

І, недасягнуўшы сваіх мэтаў, абодва праціўнікі памірылься на меншым: бальшавікі зрабілі чарговую перадышку, а палякі прырэзалі сабе столькі няпольскае зямлі, сколькі ім было можна і здавалася патрэбным для засяленьня сваімі жаўнерамі-колёністымі.

Але-ж ня скончылася ўсё на гэтым, хаця-бы тут у заходняй часьці.

Дзеля задуманай Польшчаю колёнізацыі няма поўнага прастору, бо на Віленшчыну зусім натуральна мае прэтэнсію Літва.

Гэткім чынам, тут на захадзе Беларусі, як-бы падгатаўляецца тутэйшы, „заходні“ падзел,

Польшча да гэтага падходзіць вельмі проста, з кожным разам памяншаючы тэрыторыю Сярэдняй Літвы на карысьць „kresów“, бо там лягчэй, як той казаў, адкінуць усялякую цэрамонію з беларусамі...

У апошнія часы ізноў чуваць аб тым, што ў абскубанай Сярэдняй Ліцьве мае быць скліканы Сойм, які нібыто вырашыць лёс краю.

Ці-ж не ясна для нас, што гэткі Сойм будзе вельмі мала розьніцца ад сучасных нялічаных вшэхпольскіх віленскіх „wieców“ (мітынгаў), калі сойм будзе скліканы сучаснымі гаспадарамі і калі памянішньне Сярэдняе Літвы будзе сыстэматычна ісьці далей, але пакуль не абмяжуецца... самою Вільняю,

Ясна так сама, што ў такі Сойм нам, беларусам, дарогі няма дый ня трэба.

Калі нас дзялілі ў Рызе, дык маўчалі ўсе, каму ад гэтага нічога не балела. Маўчала Ліга Нацыяў, маўчала спакойна Антанта, што, нібыто, за волю малых народаў вяла усясьветную вайну.

Протэставалі толькі беларускія ўрадовыя колы перад дыплёматамі ды актыўна пратэставалі самі народныя беларускія масы сваімі паўстаньнямі.

У часіну насоўваньня новага падзелу нельга абмяжавацца аднымі пратэстамі, а трэба арганізованна выбраць меншае з няшчасьцяў.

На безрэзультатнай польскалітоўскай конфэрэнцыі ў Брусэлі прадстаўнікі Беларусі заявілі ўжо, што *насяленьне Віленшчыны і Гародзеншчыны* (якімі фактычна ўладае цяпер Польшча) *жадае самастойнага дзяржаўнага жыцьця*, а калі гэта ў сучасны мамэнт немагчыма, лічыць за лепшае ўвайсьці ў склад Літоўскае Дэмократычнае Рэспублікі на асновах дзяржаўнае фэдэрацыі.

Гэтым, здаецца, досіць ясна сказана, што нам ужо даволі падзелаў.

Ня меней ясна, што федэрацыя магчыма толькі паміж палітычна роўнымі незалежнымі старонамі.

А каб быць роўнаю з сваімі суседзямі, Беларусь мусіць мець права вольна арганізавацца ў незалежны дзяржаўны арганізм.

І, калі мы будзем старанай арганізованай, ня страшны будзе нам ніякі Сойм, пакліканы да жыцьця тым, хто зможа і умее даць фактычныя гарантыі палітычнае свабоды.

Кожны народ, які ўмее шанаваць свае правы, хай зразумее, што трэба ўшанаваць і права на самаазначэньне Беларускага Народу.

Час ужо ўсім зразумець і прызнаць, што нам даволі падзелаў.

## Праф. Рудольф Абіхт.

(*Жалобны ўспамін*).

Калі нямецкія войскі, ў пабедным паходзе на ўсход, увосень 1915 году занялі заходнюю Беларусь, — ня толькі нямецкія палітыкі, але і нямецкія вучоныя зацікавіліся беларускім народам і беларускай справай. І гэтая цікаўнасьць прадстаўнікоў нямецкае навукі ня была бязплодная: пад той час, як у лютым 1916 году фэльдмаршалак Гіндэнбург выдае свой дэкрэт аб прызнаньні правоў беларускай мовы ў школе і ўва ўсім грамадзкім жыцьці краю (гэта *першае* прызнаньне з боку ўрадовае ўлады наагул!),—пад гэты час вядомы славісты прафэсар вроцлаўскага унівэрсытэту д-р Рудольф Абіхт, на 66-ым годзе жыцьця пачынае вучыцца беларускае мовы па кніжках — зусім ня чуўшы жывога беларускага слова, ды ўвосень таго-ж 1916 году чытае курс беларускага языка на катэдры славяназнаўства. Вясной 1917 году ў Вільню прыяжджаюць ужо першыя вучні праф. Абіхта, каб пазнаёміцца з беларушчынай на практыцы.

У канцы таго-ж 1916 году мне давялося першы раз бяседаваць з праф. Абіхтам — хоць толькі на пісьме. Першае пісьмо яго было панямецку. У ім праф. Абіхт высказаў шмат цікавых думак аб беларускай мове наогул і аб беларускім шрыфце асабліва. Староньнік лацінікі, ён хоча правясьці ў ёй радыкальную рэформу: зьмягчаць зычныя не ўстаўляючы **і** (як гэта ў нас цяпер робіцца за польскім прыкладам), а пры помачы значкоў мягкасьці ня толькі для **ć ś і ń**, для ўсіх зычных (як у чэхаў); выкінуць зусім вялікія (прапісныя) літары, завясьці новыя знакі для гукаў dz і ch, і т. д. А цераз два гады — ў 1918 годзе — выпускае ён сваім коштам кніжачку беларускую: „Prosty sposab stacca ŭ karotkim časie hramatnym“, маленькі буквар па новай сыстэме, апрацованы пры ўчасьці грам. Янкі Станкевіча. Далейшая карэспандэнцыя з праф. Абіхтам вялася толькі пабеларуску, і ў кожным пісьме, поўным розных пытаньняў аб асаблівасцях мовы, незразумелых словах і зваротах, поўным вельмі цэнных уваг аб тэй ці іншай справе, была на канцы просьба: паправіць беларускую мову пісьма і з гэтымі папраўкамі вярнуць самае пісьмо.

Сваю цікаўнасьць да беларушчыны праф. Абіхт давёў да таго, што пераклаў на нямецкую мову некалькі беларускіх вершаў (у тым ліку верш Янкі Купалы „Роднае слова“, друкаваны ў „Wilnaer Zeitung“), напісаў абшырны агляд гісторыі Беларусі, друкаваны ў віленскай газэце „Zeitung der 10 Armee“, прысылаў да „Гоману“ невялічкія заметкі *пабеларуску* (ў тым ліку невялічкі досьлед: „Калі быў напісаны Тарас на Парнасе“). Даваў ён заметкі і стацьці аб беларускай мове і ў розныя часопісі ў Нямеччыне.

Апошні раз перапісваўся я з праф. Абіхтам у 1919 годзе, калі мне давялося быць нейкі час у Бэрліне і арганізоўваць тамака выпуск інформацыйнай кніжкі аб беларусах у нямецкай мове („Weissruthenien“), якая і выйшла пад тэхнічнай рэдакцыяй нямецкага публіцыстага Вальтэра Егера. Я зьвярнуўся да праф. Абіхта з просьбай прылажыць сваю руку да праектаванай працы. На гэта адтрымаў вельмі сымпатычны адказ, ў якім праф. Абіхт горача падтрымліваў ідэю кніжкі і абяцаўся нешта прыслаць. І сапраўды прыслаў: ня толькі свае пераклады народных казак і вершаў, але, разам з жонкай свайго таварыша, грам. Эльзай Вэцман, пераклаў жменю беларускіх народных песень і ўпісаў іх на ноты народных мэлёдыяў. Усё гэта бяз ніякага гонорару было надруковано ў сказанай кніжцы „Weissruthenien“.

Пераглядаючы цяпер — з прычыны сумнае весткі аб сьмерці праф. Абіхта — ўсю нашу з ім перапіску, перад маімі вачыма ўстае з нязвычайнай яркасьцю духовы абраз гэтага праўдзівага мужа навукі, які на вечныя часы зьвязаў сваё імя з беларускай філёлёгіяй: ён — *першы вучоны, каторы чытаў унівэрсытэцкі курс беларускай мовы.* Ні „браты“ расейцы, ані палякі, а немцы былі тут першымі. Раўнуючы праф. Абіхта да тых „вучоных“ братніх народаў, якія ня толькі самі цураюцца прамовіць слова пабеларуску, але навет забараняюць сваім студэнтам зварочвацца да іх на лекцыях беларускае мовы ў гэтай-жа мове (у Віленскім унівэрсытэце),— я з асаблівай пашанай схіляю сваю галаву перад гэтым нямецкім вучоным, ушанаваўшым мову майго народу, і з шчырым жалем з прычыны сьмерці яго, шлю яму гэтыя традыцыйныя словы:

Sit Tibi terra levis!

**Ант. Луцкевіч.**

## З „заваражанага кола“.

(Глядзі „Н. Д.“ №№ 18, 19, 24).

Уся праца па арганізацыі і фармаваньню беларускіх аддзелаў, прадугляджаная ў дэкрэце, дзялілася: 1) на працу падгатаваўчую і наглядаючую за нацыянальнасьцю будучых аддзелаў і 2) на працу выканаўчую, г. з. працу фактычнага фармаваньня. Першая належала да Б. В. К., другая — да Штаба Камандуючага. Абедзьве працы павінны былі вясьціся паміж сабой незалежна, але выцякаць адна з другой, і дзеля гэтага істна-

і п. Бышэўскаму далёка да трону аднак іх манеры напамінаюць манаршую помпу Габсбургаў. Ангельцы глядзяць на іх, з-тае прычыны, як на пачатак сярэдня-вечнага фэодалізму».

Далей — гарэй:

«Пан Х. выбіраўся на Пазнанскі торг, які ня толькі меў сьцягнуць на тоўпы цікавых з цэлага абшару Польшчы, але так сама заінтарасаваў і заграніцу. Англія, як думаем, многа аб тым чула, тады як *п. Бышэўскі сам нічога ня ведаў аб торзе і яго часе*».

«Гандлёвыя і купецкія сфэры Англіі паглядаюць з непаважаньнем на абмылкі, якія мы (палякі Рэд.) робілі у сваіх гаспадарскіх справах, трацячы многа без патрэбы, з лёгкім сэрцам.

Вось факты:

„Польскі урад падпісаў ныдаўна кантракт з пэўнаю ангельскаю фірмаю на дастаўку 50 тысячаў пар ботаў для арміі *па 17 — 21 шылінгаў* за пару, падчас калі тая самая фірма прадаець боты *па 12 шылінгаў* (!).

«Два месяцы таму назад Польшча купіла ў Францыі 50.000 карабінаў, за пасрэдніцтвам... ангельскай фірмы, па 3 фунт. штэрл. за штуку. Калі транспарт прыбыў у Польшчу, 75% *карабінаў аказалася нягоднымі*. Тады па просьбе польскага ўраду названая фірма прыслала для папраўкі мэханікаў, налічваючы яшчэ па 2 ф. на штуку, так што кожны карабін абышоўся па 5 фунтаў (каля 24.000 польск. м.). Ў той самы час другі ўрад купіў такія самыя карабіны ў Англіі па 33 шылінгі (каля 1½ фунта) за штуку, з гарантыяй, што ня будзе паправак».

Так загаварылі польскія газэты аб польскіх справах. Ім гэта можна,—а калі мы гаварылі, дык нас лаялі, нам не давалі пісаць.

Эх, ты, воля і роўнасьць!

П. З.

## Першы бюлэтэнь Беларускага прэс-бюро ў Амэрыцы.

Дзеля азнаямленьня амэрыканскага і расейскага грамадзянства ў Амэрыцы з тым, што дзеецца ў Беларусі, якая бораецца за сваю незалежнасьць, групаю выхадцаў-беларусаў створана прэс-бюро, якое будзе рэгулярна падаваць у ангельскую й расейскую прэсу ўсе ведамасьці і інформацыі, што датычаць гэтага краю.

Бюлетэні маюць рассылацца гэтак сама й расейскім арганізацыям і, па магчымасьці, прыцягаць іх да працы, галоўнаю мэтаю якое будзе—падмога Беларусі моральная і матар'яльная.

У задачу беларускага прэс-бюро ўходзіць так сама распаўсюджваньне сярод выхадцаў з Беларусі газэтаў, кніг і іншых выданьняў на беларускай мове і розных інформацыяў, а так сама арганізоўваньне лекцыяў і рэфэратаў аб беларускім пытаньні.

Беларускае прэс-бюро ў Амэрыцы стаіць за незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі і пераход зямлі і ўлады ў рукі народу.

Да сваіх аднадумцаў і прыяцелёў у Беларусі мы зьвяртаемся з просьбаю—даваць нам усялякія ведамасьці аб падзеях у нашым родным краі і прысылаць друкованыя матар'ялы, якія адносяцца да яго эканамічнага і палітычнага жыцьця:

Адрэс: Te White Russian Press Beauro 63 Park Row New-York N. Y. Room 1109.

(Бел. прэс-бюро ў Амэрыцы).

## Штодзенныя весткі.

*Пятніца*, 24 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Немцы пакідаюць В. Сьлезію. Генар. Гэфэр, сказаў, што ням. войскі выйдуць з Сьлезіі паступова, разам з выхадам паўстанцаў.

— Чэскія газэты пішуць, што Пятлюра з сваім урадам зьбіраецца пасяліцца ў Карлсбадзе (Чэхія).

— Міністар унутр. справаў Польшчы Скульскі падаў просьбу аб адстаўцы.

— Першай справай новага лацьвійскага габінэту будзе заключэньне загранічнае пазычкі. Мін. фінансаў Кельнін выяжджае за-граніцу.

— Ліга Народаў даручыла абарону Гданску Польшчы.

— У Рызе трывога з прычыны ультыматуму Савецкай Расеі, якая заступілася за арыштаваных і растраляных камуністаў.

*Субота*, 25 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Як пішуць латыскія газэты, між галоўнымі павадырамі камунізму ў Расеі ідзе сур'ёзнае змаганьне. Ленін ідзе на ўступкі Коалыцыі і згаджаецца на скліканьне устаноўчага Сойму, забясьпечыўшы ў ём перавагу камуністым. Кажуць, што Ленін вымагае адстаўкі нязгодных з ім—Троцкага, Бухарына і Дзяржынскага.

— Ладзіцца паветравы камунікат па лініі Гданск—Рыга—Масква.

— З Штокгольму пішуць, што быццам Англія ў канцы гэтага месяца абвесьціць вайну Сав. Расеі. Прычына — дапамога бальшавікоў турэцкаму-ангорскаму ўраду.

— У Швэцыі расчынілі камуністычны згавор. Англія ўстрывожана.

— Дэкрэтам Сав. ўраду скасованы Нар. Камісарыят працы. Яго функцыі даручаны профсаюзам.

— У Варшаўскім Сойме стварылася новая партыя — „Нац.—народная хрысьціянская група“. На чале яе Дубановіч.

*Нядзеля*, 26 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Чычэрын паведамляе, што Савецкі Урад абвесьціў вайну Японіі, з тэй прычыны, што Японія занімае сваімі войскамі частку Сыбіры і падтрымлівае контр.-рэвалюцыянэраў.

— Англія і Францыя прапануюць вырашыць сьлезкае пытаньне дарогай беспасрэдных перагавороў між Польшчай і Нямеччынай. Калі-ж гэтым пытаньне не разьвяжацца, саюзнікі правядуць у жыцьцё свой праект.

— Згодна з пастановай Парыскай конфэрэнцыі у Сьлезіі, пасьля выхаду нямецкіх і паўстанцкіх войскаў, для падтрыманьня парадку застанецца 20.000 войскаў коаліцыйных.

— Гор. Мікалаеўск і некалькі іншых гарадоў Усх. Сыбіры заняты японцамі.

— Заводы Крупа ў Нямеччыне ўзнавілі сваю працу і ўзноў вырабляюць цяжкія гарматы.

— У Славакіі непарадкі на аграрным (зямельным) грунце.

Зьезд сінфэйнэраў (ірляндск. незалежнікі) ў Бэльфасьце пастанавіў дабівацца поўнай незалежнасьці Ірляндыі.

*Панядзелак*, 27 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Італьянскі парлямэнт выключыў з парлямэнцкіх камісіяў усіх нямецкіх і славянскіх дэпутатаў.

— Мілюкоў і Аўксенцьеў прыехалі ў Жэнэву дабівацца стварэньня пры Лізе Народаў камісіі па расейскім справам.

— Бэрлінскі суд прысудзіў вядомага павадыра камуністычн. партыі Макса Гэльца на вечную катаргу.

— У Рыбніку і Бытоме, ў В. Сьлезіі, ўзноў непарадкі.

*Аўторак*, 28 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Нямецкія і паўстанцкія войскі павінны выйсьці з Сьлезіі да 5 ліпня. Умова аб замірэньні падпісана. Паўстанцкі камітэт выпусьціў адозву да люду, у якой кліча да лёяльнасьці ў адносінах да коаліцыйнай улады і выражае надзею на вырашэньне сьлезкага пытаньня згодна з плебісцытам.

— Гэтымі днямі ў Жэнэву выехаў з Коўна палк. Бэргэр сябра кантрольнай камісіі Лігі Народаў; ён будзе прымаць удзел у пасяджэньнях Рады Лігі Народаў у справе Віленскага пытаньня.

*Серада*, 29 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Па весткам з Афінаў, грэцкі урад абвесьціў вайну Савецкае Расеі.

— Газ. „Рідній Край“ піша, што ў Каменец-Падольску пануе страшэнны бальшавіцкі тэрор. Кожын дзень растрэліваецца 30—100 чалавек.

— Як паведамляюць з Сав. Расеі, гор. Быхаў Магілёўск. губ. быў заняты паўстанцамі — сялянамі. Паўстанцы захапілі ўсе урадавыя установы і „че-ка“. Павешана 40 камуністых. Палова павету абхопллена паўстаньнем.

— У Вісбадэне суд разглядаў справу 13 чалавек фальшаваўшых польскія тысячамаркоўкі, якіх яны надрукавалі на 19 мільёнаў.

— 2-гі конгрэс кабет-камуністак выбраў Кляру Цэткін старшыней жаноцкага камуністычнага інтэрнацыяналу.

— У Петраградзе адбыліся процібальшавіцкія дэмонстрацыі. Узноў пачаліся арышты і растрэлы.

— Новы польскі міністар загр. справаў Скірмунт размаўляў с прадстаўнікамі жыдоўскае прэсы. Ён заявіў, што польская і жыдоўская нацыі павінны паразумецца і выказаў надзею, што жыдоўская прэса ў Польшчы і заграніцай дасьць пэўныя доказы лояльнасьці ў адносінах да польскага ўраду.

— Усім сьлезкім паўстанцам будзе дадзена амністыя.

*Чацьвер*, 30 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Міністрам ўн. справаў Польшчы назначаны п. Рачкевіч, дэлегат польскага ўраду ў Вільні.

— Агентств. „Уніён“ паведамляе, што Сав. Расея перарвала дыплёматычныя зносіны з Лацьвіяй.

— У Сав. Расеі уведзена манаполія на соль; цэны за хунт солі ўзрасьлі з 2 да 5 тыс. руб.

— Украінскія колы спадзяваюцца, што будучая конфэрэнцыя прэм'ераў коаліцыйных урадаў прызнае незалежнасьць Украіны і Усх. Галіцыі, як асобнай дзяржавы.

— Газ. „Руль“ піша, што бальшавікі сур'ёзна рыхтуюцца да паходу на Константынопаль праз. М. Азію.

— Чыгунковы камунікат між Нямеччынай і В. Сьлезіяй узнавіўся.

— У Ковенскім унівэрсітэце з будучага вуч. году ўводзяцца новы аддзел жыдоўскіх навук; на ім будуць чытаць жыдоўскую, гісторыю і літэратуру і сэміцкія мовы.

— Як паведамляе „Laiswe“ маскоўская чразвычайка зрабіла 11 чэрвеня обыск у памяшканьні літоўскага прадстаўніцтва ў Маскве без яго ведама і згоды.

## Провінцыяльны аддзел.

### Мястэчка ІВЕНЕЦ.

Стаўпецкага пав., Навагрудск. ваяводства.

Мястэчка Івенец знаходзіцца у 60-цёх верстах на захад ад Менску і 40 верстах ад ст. Койданава, якая зьяўляецца найбліжэйшым чыгуначным пунктам. Ня гледзячы на такую адлегласьць ад вялікшых цэнтраў і чугункі, мястэчка гэта ўсёж такі далёка не адстала ў культуральным сваім разьвіцьці ад другіх мястэчак і павятовых гарадоў Беларусі. Беларускі нацыянальны рух пранік у Івенец яшчэ у 1905 годзе, захапіўшы вучнёўскую моладзь, але хутка быў, амаль што ня сусім спынены, дзякуючы у той час агульнай Расейскай чорнай рэакцыі. У 1917 годзе з часу Расейскай рэвалюцыі беларускі рух у Івенцы пачаў ізноў ажываць. У 1918 годзе, калі да ўсіх куткоў Беларусі, далецела вестка аб аб'яўленьні нашай бацькаўшчыны незалежнай дзяржаваю, івенецкая моладзь энэргічна ўзялася за актыўную працу на роднай ніве. Быў створан Беларускі Нацыянальны гурток, які хутка легалізаваўшыся, павёў шырокую культурную Беларускую працу. Пабіліся сабраньні, на якія сходзіліся ўся моладзь Івенца і аколіц, вяліся дыскусіі, чыталіся лекцыі па літэратуры і гісторыі Беларусі, стварылася аматарская трупа, пачаліся рэпэтыцыі вечарынкі, адным словам невялічкае мястэчка зажыло праўдзівым жыцьцём грамадзян Беларусі.

У гэны самы час у Івенцы пробашчам быў кс. Жаброўскі вядомы полёнізатар. Не спадабалася яму Беларуская нацыянальная праца і ён распачаў моцную акцыю проціў яе. Сперша пачаў ён тварыць „koło młodzieży polskiej“, думаючы гэтым перацягнуць усю моладзь да сябе. Але калі ўбыдзеў, што ў яго „koło“ ішлі толькі кабеты трацяркі, тады распачаў ён агітацыю ўсюды, дзе толькі мог, а навет і з амбаніі касьцельнай. Праўда, агітацыя ксяндза зрабіла ўплыў, але толькі на тых самых трацяркаў і некаторых старэйшых рэлігійных людзей, якія пачалі скоса пазіраць на працу моладзі. Агульнай справы гэна агітацыя не папсавала, бо моладзь, захапіўшыся ідэяй адраджэньня свае Бацькаўшчыны не пакінула і вяла сваю працу далей. У канцы 1918 году гэна праца Івенецкай моладзі была спынена бальшавікамі. Пад бальшавіцкім тэрорам трэба было маўчаць, а калі й веў далей хто працу, дык толькі патаемна. Трэба было чакаць нейкай перамены. Неўзабаве перамена прышла. Вясной 1919 г. Івенец быў заняты польскім войскам. Але і тут якраз надзеі моладзі былі ашуканы. Працу нанова распачаць было немагчыма, бо побач польскага камэнданта стаяў кс. Жаброўскі. Перамога была на яго баку. Адважаваўся аказацца хіба толькі той, хто хацеў бачыць муры Кракаўскіх турмаў. Прайшло шмат часу. Палітычныя сытуацыі некалькі разоў меняліся, не было толькі такой, пры якой можна было-б у Івенцы адкрыта вясьці сваю родную працу. Праўда кс. Жаброўскага ужо там няма. Есьць іншыя ксяндзы, людзі апалітычныя, адзін з іх навет быццам сымпатык беларускасьці; але ўлада на месцы астаецца верна эндэкам і «стражы

крэсовай». Беларуская праца цяпер там вядзецца вельмі слаба. Затое полёнізацыя там ідзе ўва ўсёй сваёй паўнаце. Непаддаецца праўда полёнізацыі моладз больш-мёнш разьвітая. Як у самым мястэчку, так і аколіцах сусім сьвядома гэта моладзь цікавіцца толькі беларускай справай, і напэўна энэргічна узялася-б за працу на роднай ніве ізноў, каб мясцовая ўлада пазволіла на нова адкрыць Беларускі Нацыянальны Гурток, закрыты бальшавікамі у 1918 годзе. Ахфярай полёнізацыі тут падаюць сусім несьвядомыя дзеці. Як у мястэчку, так і кругом па вёсках адкрыты школы толькі польскія. Настаўніцкі склад у гэтых школках нявытрымоввае ніякай крытыкі.

Большасьць з іх—івенецкія мяшчанкі, некаторыя з іх малаграматныя, а ўсе, бяз вынятку, нямаючыя ніякай пэдагогічнай падгатоўкі, верныя запаведзям ксяндзоў полёнізатараў, мучаць няшчасных дзяцей убіваючы ў іх галовы пакалечаную польскасьць. Кажу пакалечаную, бо скуль-жа малаграматныя мяшчанкі беларускі, баламучаныя ксяндзамі полёнізатарамі, ці іншымі прахадзімцамі, залічаючымі сябе да пануючай расы «полскай», могуць ведаць праўдзівую польскасьць. І вось ахвярамі гэтых недавучак і тупых пасьледавацяляў польскага клерыкалізму, з'яўляюцца нашы беларускія дзеці. Сэрца абліваецца крывёй, калі мне прышлося бачыць у Івенцы, на ўрачыстасьць „Божага Цела“, як сагнаныя са ўсіх вёсак беларускія дзеці, паўбіраныя ў рогатыўкі з вялізнымі польскімі арламі і кожнае з польскім флагам у руцэ, ішлі за аркестарам музыкі, які іграў „Boże Coś Polskę“. Ім было загадана пеяць пад аркестар. Гаварыць пабеларуску ім было забаронена. Побач іх ішлі настаўніцы, якія калі-не-калі рабілі ім увагі на ломанай польскай мове. Сьледам за імі ішлі ксяндзы, за імі вялізная грамада народу. Працэсію спатыкалі сяляне набожна, зьнімаючы шапкі і кленчачы пры параўненьні з ксяндзом. Вясёлыя і задаволеныя міны былі акалічных панкоў, якія цешыліся што так „kwitnie polskość na kresach“. Кожны селянін быў глыбока пракананы, што тут адбываецца малітва Богу. Ці-ж можа наш селянін дапусьціць навет думку, што тут замест малітвы Богу, адбываецца палітычная польская маніфэстацыя? Перад вайной гэтыя-ж самыя сяляне бачылі, як у гэтым самым Івенцы рабіў такую самую „малітву“ Менскі архірэй Мітрафан. Тады пад гук „Боже царя храни“ падалі на калені праваслаўныя, а цяпер пад троху іншыя гукі падаюць каталікі. Але як тыя, так і гэтыя няведаюць, што яны кланяюцца перад аднымі і тым самым ідалам імпэрыялізмаму, у ахвяру якому яны аддалі сваіх уласных дзяцей. Пара ўжо на гэта зьвярнуць увагу нашым беларускім культурна-праьсветным арганізацыям, а асабліва на школьную справу. Бо няма нічога горшага для грамадзянства, калі душы нашых будучых грамадзян пакалечацца. Тыя-ж шчырыя беларускія працаўнікі Івенца і аколіц там бязсільны, яны зусім абязьлічаны і іх заўсёды пільнуе польскі жандар. Але няхай яны застаюцца моцны духам, няхай вераць, што сонца праўды хутка засьвеціць над нашай зямлёй, калі яны з новай сілай прыступяць да будаўніцтва сваей мілай Бацькаўшчыны, калі нашы дзеці будуць выхававацца сынамі нашага народу ў нашай роднай мове, а не адпадкамі грамадзянства, ў чужых для нас мовах.

**Ф. К.**

---

**М-ка МАРКАВА, Вялейскага пав.**

Ня гледзячы на тое, што мястэчка наша недалека ад чыгункі, але жывём мы толькі чуткамі. Газэт не адтрымваем, а калі й адтрымваем, дык вельмі рэдка. Начальства мусі хоча каб спакайней жылі, дык не дапушчае. Вядома, прачытаўшы газэту, ў галаве яшчэ закруціць. Але, і ня чытаючы газэт, мы бачым, што дарагоўля расьце. Навет на царкоўныя трэбы цэны значна падняліся. Наш маркаўскі бацюшка Васіль Недзьвецкі ня промах. Калі зарабіць, дык зарабіць добра! Надовечы адзін селянін хацеў закупіць імшу па памёршым. Але хаценьне яго засталося толькі хаценьнем—не старгаваліся. Бацюшка цэньніка ня вывесіў у свой час, а селянін ня ведаў, што „благодаць Божія“ падаражэла. Таргаваліся доўга. Бацюшка прасіў пуд жыта і 500 марак; селянін, ня маючы апошніх, даваў жыта; ня згодзіліся. Але традыцыя заставіла пазычыць грошы, ўсыпаць у мяшок жыта, сабраць родных і пайсьці памянуць пакойных. Але з чым прышлі, з тым і пайшлі, бо бацюшка, выйшаўшы з пакою, адказаў, што яму сягоньня няма часу служыць імшу; што азначала: не таргуйся, гад, з бацюшкай, ён табе заўсёды насоліць, калі толькі захоча.

**Маркавец.**



# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

**Арэшт кс. Міхала Пятроўскага.**

Увечары 26-га чэрвеня ў Барунах Ашмянскага павету арыштаваны пробашч гэтае парахвіі—кс. Міхал Пятроўскі.

Арэштаванага прывезьлі ў Вільню. На кс. М. Пятроўскага была вельмі злая „Straż Kresowa“.

Мясцовае насяленьне страшна зьдзіўлена і абурана гэтым здарэньнем. Вельмі абурана гэтым усё беларускае грамадзянства нашага краю.

Летась ўлетку кс. М. Пятроўскі быў арыштаваны бальшавікамі.

**Беларускія вучытельскія курсы ў Латвіі.**

У Латвіі ў м. Краслаўцы з 6-га ліпня пачнуцца курсы для вучыцялёў беларускіх школ, якія адчыняюцца ў беларускіх паветах Латвіі сёлета ўвосень. Беларускія дзеячы ў Латвіі зьвярнуліся да Беларускае Школьнае Рады ў Вільні з просьбаю прысласць на курсы лектароў.

**Новая кніга.**

Вышла з друку новая школьная кніга «Rodny Kraj» (лацінікаю) Л. Гарэцкай. Стр. 96. Кніга назначана для тых беларускіх пачатковых школ, у якіх вучаць лацінікаю. Цана 70 мр.

**Выданьне беларускіх школьных кніг.**

Беларуская Школьная Рада і Беларускае Выдавецкае Т-ва» шырака друкуюць беларускія кнігі для сярэдніх школ. Наўперад будуць надрукаваны кнігі матэматычныя.



Вельмішаноўны пан Рэдактар!
Дару Вас крэйзаньнем сваім.
А гэта дось паважны фактар
—Павінны Вы згадзіцца з тым—
Каб ня пісаць звычайнай прозай,
А ўціснуць думку ў гучны «мэтр»,
Хоць розум кажа мне з пагрозай:
—Ад дурня я на сантымэтр.
Ды ўсе-ж хацеў-бы мець надзею
(Мо' шчырасьць гэтка пану ўперш)
Што добрым будзе пан судьдзёю
І не асудзіць гэны верш.
А прачытаўшы ўважна тыя,
Што я пры гэтым дадаю
І прысудзіўшы:—«не благія»
Ў газэту зьмесьціць іх сваю.
Калі-ж і ў мілы Панскі кошык,
Перападзе якая рэч—
Ня будзе крыўдна ні на грошык,
Хоць стоража шкадую плеч.
А нумар з творам маім першым
Сюды дайшоў—прыемны яў.
Але пара мне кончыць з вершам.
Калі-ж што лішняе сказаў,
Хай мне даруецца абмылка.
Затым з пашанай застаюсь
**Уладзімер, сын Адамаў, Жылка,**
Па волі Лёсу, беларус.

## З Олэся

(*З Украінскага*).

Я болей ня плачу... Я муку сваю
Навек ў ланцугі закую.
Народ мой закуты, забраны,
Гарацъ яго раны...
    І душу сваю
    Я ранам яго аддаю.

Я больш не сьпяваю: ў змаганьні ўначы
Сьпяваюць жалезны мячы.
Маланкамі ў цемры лятаюць
Да бою склікаюць;—
    Няхай ў барацьбе
    І мой меч пяе аб сабе.

Даволі маўчаці. Нямыя рабы
Паднялі штандар барацьбы,
Народ загукаў мой: «Да бою
За зямлю, за волю!»
    І ў помсьце сьвятой
Крычу я: „За волю, на бой!“

**Уладзімер Жылка.**

## З „Камэдыі каханьня“

(Г. Ібсэна).

Я парус свой у сьвет вялікі
Пакіраваў і, як арол,
Ляту, і мора б'е наўкол,
І чаек ўсьлед чуцён крык дзікі.
    Развага тут і асьцярожнасьць
    Мне не патрэбны паміж хваль,
    І хоць гатуе мелі даль,
    Ляту я... покі можна!

**Уладзімер Жылка.**

---

# ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

## Скіньце маскі.

Ёсьць у нас установы, якія на паперы заўсёды лічацца беларускімі, але сапраўды з беларусамі нічога суполнага ня маюць. К такім установым нажаль патрэбна аднясьці між іншым і так званы „беларускі“ каапэратыў „Райніца“ па Віялікай Пагулянцы.

Гэтымі днямі мне здарылася пабываць у сказаным каапэратыве. Зразумела што у беларускім каапэратыве я лічыў натуральным гутарыць у сваёй роднай мове і спадзяваўся, што і адказ мне дадуць так сама ў нашай мове, але мая надзея не апраўдалася. Кабета, якая адпускала мне тавар, на маё пытаньне пачала гаварыць папольску. На мае запытаньне чаму яна не гаворыць пабеларуску, кабета адказала, што ў іх заўсёды гавораць і будуць гаварыць папольску. Відаць, што гэтая кабета ня толькі ня умее пабеларуску, але навет і ня хоча гаварыць гэтаю „мужыцкаю“ моваю.

Цікава, чаму гэта каапэратыў, які лічыць сябе беларускім, трымае такіх працоўніц, якія ня толькі ня ведаюць роднае мовы, але навет маюць да яе варожы настрой. Апраўданьня гэтаму прыкраму здарэньню няма ніякага.

Усё гэта яшчэ можна было-б зразумець, калі-б гэтыя палячкі з апраўды былі здольнымі да гандлёвае працы, а сярод нас, беларусаў, ня можна было-б знайсьці здольных да гэтага асоб.

Але калі мне прышлося разьлічацца за куплены мною тавар, дык пані касерка так вылічвала належную з мяне суму: „восем да восемь—шаснаццаць, шаснаццаць да восем дваццаць чатыры і так далей, пакуль не налічыла шэсьцьдзесят чатыры; потым стала лічыць на шчоты, і, ўрэшце, яшчэ пералічыла на паперы алаўком. Відаць гэтая кабета наўсім няграматна. Выходзіць, што беларускі каапэратыў падтрымоўвае палякоў, навет і няздольных да працы. І гэта ў той час, калі ў Вільні ёсьць шмат нашых безработных сапраўдных беларусаў з адукацыяй; напрыклад здэмобілізованыя ахвіцэры, якія прымушаны займацца фізычнай працай.

Цікава ведаць хто зьяўляецца кіраўніком каапэратыву „Райніца“, можа ён дасьць адказ, чаму так дрэнна стаіць справа ў нашым каапэратыве. Збоку беларускасьці. А можа там усе палякі, дык мы беларусы павінны зьвярнуць увагу на гэтае і не дапушчаць, каб нашым імём карысталіся дзеля невядомых нам мэтаў.

Далоў маскі паны „каапэратары“ з „Райніцы“! Калі вы лічыце сябе беларусамі, дык будуце-ж імі сапраўды, а не—дык майце мужасьць адкрыта сказаць: „мы палякі“.

**Улас.**

---

**Клюб нацыянальнасьцяў.**

У унівэрсытэце Стэфана Баторага арганізуецца „Клюб нацыянальнасьцяў“. Мэта клюбу — зближэньне краёвых нацыянальнасьцяў. Учора 30 чэрвеня была агульная арганізацыйная зборка гэтага клюбу.

---

# Абвешчаньне.

**Пракурорскага Ураду пры Акружным Судзе ў Вільні.**

На моцы прыгавару Над'звычайнага Суда Віленскага Судзебнага Вокругу ад 25-га чэрвеня 1921 году засуджданы на кару сьмерці праз растрэл жыхары м. Вільні Уладыслаў 27 гадоў і Язэп 18 гадоў, сыны Карла, **Легаўцы-Бернюкевічы**, за збройны напад, выпаўнены ў вёсцы Тэцьянцы, Троцкага павету, у ноч з 21 на 22 сакавіка 1921 г. на падставе арт. 51, 49, 589 ч. 2 п. 4, 5 і 6 Карн. Код.

Кару вызначаную Язэпу Легаўцу-Бернюкевічу Галоўнакамандуючы войскаў Сярэдняе Літвы ў парадку літасьці замяніў на 15 гадоў цяжкага астрогу, а прыгавар адносна Уладыслава Легаўца-Бернюкевіча быў выпаўнены 28 чэрвеня г. г. у $6\frac{1}{2}$ гадзін раніцаю ў Вільні.

**Пракурор Акружнага Суда.**

---

# Весткі з Савецкай Беларусі.

**Праца гуртка „Зорка“.**

(*М. Бабруйск, Бярэзінскі фарштадт*).

Па ініцыятыве вучняў школы 2 ст. імя Янкі Купалы на Бярэзінскім фарштадзе 14 красавіка г. г. з'арганізаваўся Беларускі культурна-асьветны гурток. Зараз жа сябры гуртка на чале з Ягоравым (старшыня гуртка) і Акулічам (сэкратар) шчыра прыняліся за працу: адчынілі хату—чытальню, наладжвалі спэктакл.

24-га траўня г. г. ставілі «Міхалку». Сказаць, што йгралі вельмі добра нельга, але п'еса зрабіла вельмі добрае ўражаньне. Саля была перапоўнена грамадзянамі й чырвонаармейцамі.

Гурток ужо мае 37 сяброў. Нядаўна пры ім з'арганізаваўся яшчэ дзіцячы драматычны гурток з харавою сэкцыяй. У дзіцячым гуртку лічыцца 45 сяброў. У хуткім часе будзе пастаўлен дзіцячы спэктакль.

**В. Л.**

---

**Вершы Якуба Коласа.**

Навукова-літерацкім аддзелам камісарыяту асьветы куплены к выданьню загранiцай вершы Якуба Коласа.

**Патрэты беларускіх пісьменьнікаў на картках.**

Навукова-літэрацкі аддзел наркамасьветы маецца выдаць адкрыткі з патрэтамі беларускіх пісьменьнікаў, паасобку.

**Інстытут беларускай культуры.**

Статут „Інстытуту беларускай культуры“ аддан на канчатковае перагляданьне выбранай «навукова-літэрацкім аддзелам Нарасьветы камісіі з трох асоб. Гэтай-жа камісіі даручана правясьці статут праз Саўнаркам Беларусі к хутчэйшаму яго ажыцяўленьню.

**Хата беларускага мастацтва.**

Наркамасьветам зацьверджан статут «Хаты беларускага мастацтва» імя Ігната Буйніцкага. На днёх адбудзецца сход сяброў „Хаты“ для выбару ўправы й намечаньня дня ўрачыстага адчыненьня яе.

**Патрэбна сур'ёзнае дазнаньне.**

Грамадзяне Валасовічскай воласьці абураны несправядлівымі чыннасьцямі Валасовічскага спажывецкага таварьства. На днёх каапэратывам было адтрымана для тавараабмену 250 пуд. солі, 90 000 пудэлкаў запалак і 10 пудоў катлоў для варэньня яды. За гэтыя тавары каапэратыў павінен здаць Цэнтрабелсаюзу 1080 пуд. хлеба.

Пры паверцы налічнасьці солі знайшоўся недахват солі ў $8\frac{1}{2}$ пудоў. Трэба дадаць, што соль складалася ў лаўку каапэратыва ноччу, а прымалася камісіяй ўжо днём, дзеля чаго няма як знайсьці, па чыёй віне палучыўся недахват солі $8\frac{1}{2}$ пудоў. Дзякуючы-ж гэтаму здарэньню, расценка на іншыя тавары была павышана. Трэба зьвярнуць увагу на тыя варункі, што каапэратыў не зрабіў ніякіх крокаў, каб справідлова раздзяліць хоць бы катлоў. Выйшла гэтак, што іх атрымалі ня тыя, каму яны былі патрэбны, не беднякі, а тыя, кто мог „падмазаць“ каму трэба, ад каго залежыла даць ці ня даць.

(Белроста).

**Спэктакль-канцэрт у клюбе Беларускай моладзі.**

У суботу, 28 траўня, ў клюбе беларускай моладзі („Беларуская Хатка“) адбыўся спэктакль Беларускай трупы Дзяржаўнага тэатру. Была пастаўлена п'еса „Паўлінка“. Аб п'есе няма чаго казаць, бо яна вельмі шмат разоў ставілася і ўсім добра знаёма. Хочацца сказаць некалькі слоў аб артыстах.

У гэты дзень быў першы выступ маладой беларускай артысткі Тацяны Бандарчык. Яна йграла ролю Паўлінкі. Трэба прызнацца, што Менская публіка бадай што першы раз убачыла на сцэне тып сапраўднай Паўлінкі, якую можа малюе сабе й сам аўтар п'есы. Іграла гэту ролю артыстка Бандарчык дужа прыгожа. Праўда, у яе ня было тых артыстычных завучаных жэстаў і рухаў, якіх вельмі шмат ужывалі папярэднія артысткі ў гэтай ролі, але ў яе была не падробленая рухавасьць сапраўднай вясковай дзяўчыны, што й прымушала публіку бачыць перад сабой зусім новы тып Паўлінкі, Паўлінкі не гарадзкой паненкі, а сапраўднай вясковай дзяўчыны. Новая артыстка добра таксама спраўлялася з мімічнай ігрою. А яшчэ болей зварачывала ўвагу публіка на яе прыгожую беларускую мову. Слухаючы яе мову, дужа няпрыемна было чуць русіцызм старога артыста Злотнікава (у ролі бацькі Паўлінкі), які заўсёды бяз гэтага не абыходзіцца.

Адным словам, трэба сказаць, што першы выступ новай артысткі Бандарчык быў вельмі ўдзячным. Ва ўсіх бакох ігры праглядвала вялікая здольнасьць. Калі толькі яна папрацуе некі час пад кіраўніцтвам нашага паважанага рэжысэра Ждановіча, з яе выйдзе найлепшая артыстка. Яна новай яснай зоркай зазьяе на нашай беларускай сцэне. Пажадаем-жа сілы й ахвоты ў гэтай працы нашай маладой, але падаючай вялікія надзеі, артыстцы.

Што тычыцца іншых артыстаў, як і заўсёды йгралі таксама добра.

Вечар закончыўся хорам, дэклямацыямі й аркестрам балалаечнікаў і мандалістаў, у якім ігралі сябры гуртка беларускай моладзі.

## Паштовая скрынка.

*Кастусёнку*. Па прысланых Вамі адрэсох „Н. Д." будзе паслана, чакаем грошай. Раку-Міхайлоўскаму можаце пісаць на Віл. Нац. Камітэт.

*Костусю Маеўскаму*. Ліст і грошы адтрымалі. За ахрвяы-падзяка. Па прысланных адрэсох, так сама як і па прысланых Вамі раней, газэта ўвесь час пасылаецца, калі не даходзіць—віна ня наша.

## Віленская біржа (гельда).

28 чэрвеня (іюня) 1921 г.

| | | |
|---|---|---|
| Думскія 1000 р. | 680 | „ |
| Доляры | 1880 | „ |
| Фунты | 7100 | „ |
| Немецк. маркі (1000) | 2600 | „ |
| Осты (1000) | 2550 | „ |
| 10 руб. золатам | 8300 | „ |
| 1 „ серабр. | 370 | „ |

## Ахвяры „Нашай Думцы".

Рэдакцыя прыносіць сваю шчырую падзяку грамадзянам настаўнікам і грамадзянкам настаўніцам беларускім за зложаныя імі з свайго працоўнага заробку гэткія ахвяры:

| | | |
|---|---|---|
| 1) Вінцук Азерскі | 500 | мар. |
| 2) Іван Іода | 200 | „ |
| 3) Якім Бубневіч | 200 | „ |
| 4) Сьцяпан Шчуцкі | 200 | „ |
| 5) Ляксандра Кулак | 200 | „ |
| 6) Кастусь Маеўскі | 200 | „ |
| 7) Ўладзімер Іода | 130 | „ |
| 8) Паўлюк Цяжкі | 100 | „ |
| 9) Валянціна Іода | 100 | „ |
| 10) Сымон Кароль | 100 | „ |
| 11) Юрка Барыс | 100 | „ |
| 12) Марыся Маеўская | 100 | „ |
| 13) Натальля Крэсцьянава | 100 | „ |
| 14) Паўлюк Башаркевіч | 50 | „ |
| 15) Мікола Гарадовіч | 150 | „ |
| 16) Нікан Каваленка | 100 | „ |
| 17) Пётра Рэут | 200 | „ |
| 18) Антось Рубацкі | 200 | „ |
| 19) Алена Карнаух | 100 | „ |
| 20) Вера Кавалеўская | 100 | „ |
| 21) Антось Шаўлюк | 200 | „ |
| 22) Сымон Сухадолец | 100 | „ |
| 23) Пётра Журкевіч | 100 | „ |
| 24) Ф. Аляхновіч | 50 | „ |
| Агулом | 3580 | мар. |

## Інформацыйны аддзел.

**Беларускі Нацыянальны Камітэт** Вільня, Вострабрамская 9, пакой 5. Старшыня Фабіян Ярэміч. Сэкрэтар Кахановіч. Камітэт адчынены штодня, апроч сьвят, ад 11 да 2 гадзіны. Паседжаньні пленуму у панядзелкі ад 6 гадзіны.

**Юрыдычны Адзел** Б. Н. К. адчынены ад 11 да 2 гадзіны ў дзень. Прыймаецца складаньне просьбау і заяў у беларускай і польскай мове і кіраваньне рознымі юрыдычнымі справамі. Бедным рада дарма. Дзеля працы ў аддзеле запрошаны спрактыкаваныя юрысты.

**Інструктарскі Аддзел** Б. Н. К. пасылаець інструктароў на правінцыю, памагае арганізацыям радай, коштамі, літэратураю. Загадчык А. Карабач.

**Беларуская Школьная Рада**, Вільня Вострабрамская, 9. Старшыня М. Кахановіч, сэкрэтар А. Луцкевіч. Клапоціцца аб беларускіх школах і наагул аб справах беларускае асьветы. Памагае радай, коштамі і кнігамі.

**Беларускае Выдавецкае Т-ва** выдае ўсялякія кніжкі ў беларускай мове. Сябраў прыймае Урад Т-ва. Уступная плата—50 м., сяброўская гадавая складка—100 м. Адрэс Т-ва Вільня, Віленская вул. № 33, кв. 1 (адчынена ад 4 да 5 гадз. у дзень). Старшыня А. Луцкевіч, сэкрэтар С. Рак.-Міхайлоўскі.

**Беларуская Кнігарня** Беларускага Выдавецкага Таварыства, Вільня, Завальная, 7. Прадаюцца усялякія кнігі, падручнікі для пачаткавых школ і гімназій, поўныя зборы твораў беларускіх клясыкаў, сцэнічныя творы, песьні з нотамі, газэты і розныя пісьменныя матар'ялы (сшыткі, алаўкі, пёры і шмат інш.). Прыймаюцца заказы ад школ і культурна-асьветных арганізацый па самай сходнай цане. Каталёгі высылаюцца дарма.

**Беларускі Школьны Аддзел** пры дэпартамэнту асьветы. Вільня, Каўкаская вуліца (рог Вялікай Пагулянкі), 2, трэйці паверх, налева, пакой № 16. Рэфэрэнт Б. Тарашкевіч.

**Першая Віленская Беларуская Гімназія** (для хлопцаў і дзяўчат), Вільня, Вострабрамская, 9. Дырэктар М. Кахановіч, інспэктар А. Дмахоўскі. Гімназія ў складзе 8 аснаўных (ёсьць паралельныя) і 2 прыгатавальных клясаў, з інтэрнатам пры ёй. Навука ў гімназіі даступна для самых незаможных дзяцей. Лепшыя вучні з пачаткавых беларускіх школ маюць магчымасьць паступіць у гімназію і вучыцца ў ёй зусім дарма. Скончыўшыя гімназію ў 1920 г. вучацца цяпер ў Віленскім унівэрсітэтце і ў вышэйшых школах заграніцай.

**Беларускія пачаткавыя школы ў Вільні.** 1) Кальварыйская, 73. 2) Лідзкі тракт, могільнік. 3) Радунская 27-а. 4) Зарэчча, Панамарская, 12. 5) Аранбурская вуліца. 6) Антокаль. 7) Пры Беларускай гімназіі. Навука бясплатная. У кожнай школе даецца дзяцём сьнеданьне, а бяднейшым—вопратка.

**Цэнтральная Рада Беларускага Вучыцельскага Саюзу.** Канц. 1-й Віленск. Бел. Гімн., Вільня, Вострабрамская, 9.

**Першая Горадзенская Беларуская Гімназія** (для хлопцаў і дзяўчат). Есьць вакансіі ўва ўсіх клясах. Горадня, вул. Ожэшковай, № 28.

**Беларуская гімназія ў Гарадку** Вялейскага павета, Віленскае губэрні. Дырэктар Тышкевіч.

**Алёна Сакалова**—беларуская прадстаўніца у Амэрыканскім Камітэце Помачы дзяцёы, Вільня, Вострабрамская, 9 пакой № 16, прымае ад 3 да 4 гадзіны.

**Прытулак Камітэта помачы**, Вільня, Вострабрамская, 9, (будынак гімназіі), Загадчыца Л. Васілевіч.

**Беларускі коопэратыў „Райніца"** Вільня, Вялікая Пагулянка, 17.

**Віленскі Саюз Коопэратываў**, Малая Пагулянка, д. № 12.

**Грамадз. Сабраньне Белар. Музыкальна-Драматычн. Гуртка**, Біскупская 12.

**Новаадчыненая спецыяльная Поліклініка венэрычных хвароб**: Людвісарская (Прэображэнская) № 14. Трыпер, сыфіліс (606—914), мочэплацёвыя, скурныя, бязсільле плоці, белі і інш. Прыймовыя гадзіны: для мушчын—$8\frac{1}{2}$—$10\frac{1}{2}$ мньн. і 4 — 7 гадз. ўвеч. для кабет — ра—1 г. дн., што дня.

**Доктар А. В. Краскоўскі** (агульная медыцына). Прыймовыя гадзіны: ад $8\frac{1}{2}$ да 10, 2—3, 6—$7\frac{1}{2}$. Вільня, Вострабрамская, 20, кв. 6.

«**Krynica**» biełaruskaja tydniowaja hazeta. Redakc. i administracyja: Zawalnaja wul. 7; ad 9—6. „KRYNICA" kaštuje: na hod. 300 mk., na paŭhoda 150 mk., na 3 miesiacy 75 mk., asobny numar 5 mk.

**„Маладое жыцьце"** — часопісь беларускай вучнёўскай моладзі — Вільня Вострабамская, 9.

„Iednaść"—беларуская газэта.

**Шляхі да „Нашай Думкі"**: Рыга-Nikolaistr. 20. — **Копэнгага B**, Dannebrog, sgade 39 A. — **Прага**, Wenzigowa 4. — **Бэрлін, W. 30**, Motzstr. 21. — **Чыкаго**, 1252 So Union ave, U. 5. 17. — **Нью-Іорк.** 728 Stanway ave Long Jsłand City — **Канстантынопаль**, Брусса, № 27.—**Рэваль.** Post kast 153 — **Парыж.** 25 Avenue Vikor Emmąnuel III. — **Горадня**, вул. Ожэшковай 28. — **Варшава**, Шпітальная 12, кв. 29, Беларускі Нацыянальны Камітэт.— **Ліда**, Вісмонты, 48. — **Саколка**, Беластоцкая вул., п. Індурскі, р. Парук. — **Люцын**, Рэжыцкая вул., 38. — **Дзьвінск**, Варшаўская, 56 — **Баранавічы**, Шашова 112. — **Несьвіж**, Гарадзейская, 96.

**Рыскі аддзел Беларускага Культурна-Прасьветнага т-ва «Бацькаўшчына»**—Latwija, Riga, Nikolai ul'a, 20, dz. 1. Старшыня — К. Езавітаў, Сэкрэтар — Хургін.

**Беларускае Культурна-Прасьветнае т-ва «Бацькаўшчына» ў Латгаліі**—Latwija, Riga, Witebskaja, 16. Старшыня—Я. Харлап, сэкрэтар—П. Паўчэр.

**Люцынскі Аддзел Беларускага Культурна-Прасьветнага т-ва «Бацькаўшчына» ў Латгаліі**—Latwija, Ludze, Sjebežskaja, 66. Старшыня—С. Сахароў, сэкрэтар—М. Іваноў.

**Рада Беларускай Колёніі ў Латвіі**—Latwija, Riga, Bulw. Totlebena, 7, dz. 3. Старшыня—Зэліксон.

Запісь ў Інформацыйны Аддзел „Нашае Думкі" прыймаецца на 3 месяцы па асобнай згодзе.

## Новыя кнігі.

**М. Гарэцкі.** — **„Гісторыя беларускае літэратуры"** (старадаўнае, новае і сучаснае). 208 стр., 33 рысункі, альбомная папера, цьвёрдая акладка. Цана 150 польскіх мар.

**Браты М. і Г. Гарэцкія** — **„Маскоўска-беларускі слоўнік"**, выданьне II, з папраўкамі і вялікімі дадаткамі, 144 стр., цана 75 польскіх марак.

**Антон Навіна**—**„Пуцяводныя ідэі беларускае літэратуры**, адбітка з „Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**А. Канчар** — **«Клясавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганьне на Беларусі»**, адбітка з «Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**Я. Лёсік**—**„Нашая крыніца"**, трэцяе чытаньне для беларускіх пачаткавых школ. 107 стр., цана 50 польскіх марак.

**Тэрміналёгія арытмэтыкі**, укладзеная Камісіяй Менскага Беларускага Пэдагогічнага Інстытуту. Цана 10 польскіх марак.

Апрача таго, перадрукаваны:

1. **Лемантар „Зорка"** ч. 1 А. Смоліч, цана 20 м.
2. **Беларуская Граматыка** Тарашкевіча, цана 22 м.
3. **Задачнік Юрэвіча** год I.

Прадаюцца ў «Беларускай Кнігарні», Вільня, Завальная 7.

**Францішк Аляхновіч.**—**Заручыны Паўлінкі** пьеса ў 1 акце з песьнямі і скокамі. Цана 50 мар. п.



## Першая Горадзенская Беларуская гімназія (для хлопцаў і дзяўчат)

у складзе 2-х прыгатав. і 2-х аснаўных (I і II) кляс. Прыёмныя экзамены ўва ўсе клясы пачнуцца пасьля 15 жніўня (аўгуста). Навука ў гімназіі даступна для самых, незаможных дзяцей. Пры гімназіі для вучняў з вёсак арганізуецца інтэрнат, гдзе дзеці будуць мець квартэру і яду за самую танную цану, а тым, якія будуць прывозіць свае харчы, ремаль нічога ня будзе каштаваць. Давядацца падробна можна па адрэсе: Горадзен, Мастаавая, 9, канцэлярыя гімназіі.

**Дырэктар гімназіі П. Тамашчык.**



Рэдактар і выдавец А. Кабычкін.

Друкарня Віленскага Выдавецтва Б. А. Клецкіна.